

# БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР

СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ 1992 год

№№ 1-2 (5-6) КОШТ 2 руб. 50 кап.








# АТРЫБУТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Паштовая марка як знак аплаты паштовых паслуг вынайдзена Ралaндам Хіллам больш чым 150 гадоў назад. Зручную навізну ад Ангельшчыны перайнялі эўрапейскія краіны, хутка марка атрымала прызнаньне ва ўсіх цівілізованым сьвеце, часта зьяўляючыся ў чужой краіне раней гандляроў і дыпламатаў.

Паштовая марка – атрыбут незалежнасьці. Таму заўсёды прыцягвала ўвагу акупантаў, яны забіваюць выявы нацыянальных сімвалаў захопленых краін чорнай фарбай. А патрыёты тым жа колерам друкавалі на марках гістарычную дату і слова „незалежнасьць", адкрыта заяўляючы аб сваіх імкненьнях змагацца за волю.

Паштовая марка – люстэрка, у якім адбіваецца вобраз дзяржавы. У таталітарных краінах тыповай становіцца тэма „Чалавек са стрэльбай", і яго твар заўжды закрывае каска. Частыя малюнкі людзей працы – крывадушнасьць, узьведзеная да ўзроўню дзяржаўнай палітыкі. У таталітарных краінах паштовая марка – гэта інстытут дзяржаўнай ідэалогіі, сродак прапаганды і „прамыўкі мазгоў". Тэматыка марак такіх краін да зьдзіўленьня аднолькавая. У гэтым можна пераканацца, параўноўваючы маркі гітлераўскай Германіі, былога Савецкага Саюза, КНР альбо Ірака.

Паштовая марка – гістарычны дакумент. Войны, рэвалюцыі, утварэньне і распад імпэрый – усе гэтыя гістарычныя катаклізмы знайшлі адлюстраваньне на паштовых марках. Але нямыя сьведкі мінулых падзей не заўсёды могуць адказаць на пытаньні: чаму аднаму народу ўдалося абараніць сваю незалежнасьць, прыйсьці да дэмакратыі і нацыянальнага росквіту, а другі народ не здолеў выкарыстаць свой гістарычны шанец?

Зразумела, паштовая марка – рэч сур'ёзная, але да нас, беларусаў, яна дагэтуль амаль ніякіх прамых адносін не мае. Суседняя Летува выпусьціла свае маркі нават у той час, калі яе суверэнітэт упарта не прызнавалі. І гэта было слушна. Маркі адыгралі сваю ролю ў нацыянальнай кансалідацыі, садзейнічалі высьпяваньню і ўсьведамленьню ідэі незалежнасьці. Зусім нядаўна паведаміла пра выпуск сваіх марак і Латвія. Марку ў гонар агалошваньня сваёй незалежнасьці выдала Украіна. Што датычыцца нашага ўрада, дык ён, па сваёй звычцы аглядваецца на добрага дзядзьку, не сьпяшаецца ўмацоўваць суверэнітэт Беларусі. Напэўна, давядзецца чакаць, пакуль не ўзьнікне тэрміновая неабходнасьць уводзіць свае маркі, а гэта адбудзецца тады, калі ўсе рэспублікі былога СССР будуць дыспанаваць сваім знакам аплаты паштовых адпраўленьняў. Ці ў нас і тады будуць у абарачэньні маркі неіснуючай дзяржавы?

Беларуская эміграцыя, выкарыстаўшы страйк паштавікоў, выпусьціла за мяжой (!) беларускія маркі, якія нагадалі Еўропе пра існаваньне Беларусі. Няўжо ва ўрада суверэннай дзяржавы менш магчымасьцяў? Ці няма жаданьня? Тады, што ж гэта за ўрад?! І, напэўна, у такой сітуацыі варта Вярхоўнаму Савету рэспублікі ўнесьці ў парадак дня чарговай сэсіі пытаньне эмісіі паштовых марак Рэспублікі Беларусь. Ужо ж колькі месяцаў мінула з таго дня, калі нашай „Дэкларацыі незалежнасьці" нададзены канстытуцыйны статус.

Усталяваньне і ўмацаваньне незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны, зразумела, расставіць ўсё па сваіх месцах. Паштовым маркам Беларусі будзе належаць паважнае месца ў аўтарытэтных замежных каталогах. Ніводная філатэлістычная фірма не асьмеліцца побач з выявай марак БНР зьмяшчаць абражальны для нашага нацыянальнага гонару каментар: „макулатура", „прыватная хаўтура", „эфемерны выпуск". І дзеля гэтага будуць усе падставы. Гэтыя маркі будуць пазначаны першымі нумерамі ў каталогах паштовых марак Рэспублікі Беларусь. Супярэчаньні тээрэтыкаў ад філатэліі: „не прайшлі пошту", „выпушчаны непрызнанымі ўрадамі" і г. д. не пойдуць у залік. Філатэлісты Беларусі ведаюць больш пра свае маркі, чым розныя „знаўцы" збоку. Для нас маркі Беларускай Народнай Рэспублікі – нацыянальныя сьвятыні. А паштовая марка незалежнай Рэспублікі Беларусь будзе нечым значна большым, чым звычайны паштовы квіток за перасылку ліста.

Ігар МАТАВІЛАЎ.

г. Менск.

# УЗНАГАРОДЫ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

Ад Міхася Тулейкі мы атрымалі фотаздымкі ўзнагарод Беларускай Цэнтральнай Рады. Трэба сказаць, што сёньня гэтыя ўзнагароды амаль не вядомы на Беларусі. Нас цікавяць усе тыя зьвесткі, што датычаць гэтых узнагарод: колькасьць, аўтар, дзе былі выраблены. Мы спадзяемся, што адгукнецца наша эміграцыя, і мы атрымаем зьвесткі пра гэтыя ўзнагароды, якія абавязкова паведамім нашым чытачам.



# Малюйма беларускія грошы

31 жніўня 1990 года ў газеце „Звязда" (а потым, 28 верасня 1990 года ў газеце „ЛІМ") быў змешчаны артыкул народнага дэпутата Беларусі Зянона Пазняка „Талер, грош, менка?", у якім абмяркоўваецца будучыня нацыянальнай фінансава-крэдытнай сістэмы. Мяне, як калекцыянера, вельмі зацікавіў гэты артыкул. Няма сэнсу пераказваць змест яго, хачу толькі адзначыць, што вельмі лагічна, а, галоўнае, на вышэйшай ступені кампетэнтна, З. Пазняк прапануе назву вышэйшай беларускай грашовай адзінкі (замест рубля) – „ТАЛЕР", замест капейкі – „ГРОШ". Маючы саракагадовы стаж калекцыянера-баніста і нумізмата, я не змог прапанаваць нічога лепшага. І згадзіўся з аўтарам.

Але Пазняк пайшоў далей. Вось што ён піша:

„Было прапанавана таксама некалькі неалагізмаў манет. Адзін з іх мне здаецца надзвычай цікавым. Гэта – „менка". Чытач, напэўна, ужо здагадаўся пра этымалогію гэтага слова – Менск, рэчка Менка, ад слова „мена", „мень", „мяняць", ад узнікнення нашага горада на гандлёвым „менавым" месцы і г. д. Функцыя ж наміналаў ніжэйшай ступені ў асноўным разменная (кажуць „разменная манета"). Чаму б тут не ўспомніць старажытнае беларускае слова „мена" і вытворнае ад яго „менка". Яно ж не толькі функцыянальна адэкватнае прызначэнню манет, але і звязана з гісторыяй Менска, дзе цяпер адраджаецца на новым узроўні беларуская грашовая сістэма (адсюль і назва: „менка" – значыць менская манета). Згадзіцеся таксама, што слова прыгожае, мілагучнае, простае, кароткае, беларускае, старажытнае і, што не малаважна, – сэнсава адпаведнае, ужыта дарэчы".

Сапраўды, дарэчы. І як ні хочацца аставіць старажытнае слова „грош" (якое пратрымалася ў беларускім абіходзе амаль шэсцьсот гадоў), – я галасую за менку.

Пад уражаннем артыкула я сеў маляваць новыя грошы. А пачаў менавіта з „менкі". Літаральна за адзін вечар былі намаляваны „менка" і „паўменкі". А калі паэт Юрка Голуб – вядучы гарадзенскай тэлеперадачы „Гарадніца" – запрасіў мяне расказаць пра скарбы сваіх калекцый, я захапіў у студыю і свае малюнкі праектаў новых беларускіх грошай.

19 верасня 1990 г. „менка" ўпершыню выйшла ў эфір у Гародні.

Але мінуў цэлы год, а мы, „дзякуючы" нашаму бяздарнаму камуністычнаму ўраду, топчамся на месцы чакаючы ўсеагульнай пагібелі. І цяпер ужо другі народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў спрабуе пераканаць нас:

„Калі мы пойдзем разам з Ельцыным, адпусцім усе цэны і пры гэтым пакінем савецкі (альбо новы расейскі) неканверсіруемы рубель, які ўжо знішчаны ў польскіх банках, нас чакае катастрофа на працягу двух-трох месяцаў. Можа выратаваць толькі ўласная валюта, якую трэба ўвесці адначасова з Прыбалтыкай і Украінай. Прычым можна прыраўняць талер да долара і спачатку пусціць у абарачэнне толькі разменную манету і купюры малой вартасці ад 1 да 10 талераў . . ."

Міхась ВЕРАЦІЛА.

Прабачце, але ў якасці „пост скрыптум" хочацца прывясці яшчэ словы вядомага расейскага эканаміста Васіля Сялюніна, што „ў самым вялікім пройгрышы застанецца тая рэспубліка, якая будзе ўводзіць уласную валюту апошняй".

# ПАШТОВЫ ШТЭМПЕЛЬ — АДБІТАК ГІСТОРЫІ

Агульнавядома, што пасьля кастрычніка 1917 года паўсюль на тэрыторыі ўсёй Расеі пры Савецкай уладзе выкарыстоўваліся паштовыя маркі і штэмпелі са старой выявай узора. Калі паштовыя маркі царскай Расеі былі выключаны з паштовага ўжытку к сярэдзіне 20-х гадоў, то паштовыя штэмпелі старога ўзору ўжываліся амаль да 30-х гадоў, асабліва ў невялікіх паштовых канторах. Мне сустракаліся ў калекцыях канвэрты і паштовыя карткі з адбіткам штэмпеляў старога ўзору (з літарай Ь і Ъ) – Чэрыкава (1926 г.), Шацка (1927 г.), Рудзенска (1926), Менска (1927), Віцебска (1928), Лоева, Жлобіна (1929), Магілёва (1930). У той жа час гэтыя паштовыя канторы ўжо выкарыстоўвалі новыя штэмпелі, адпавядаючыя праводзімай у той час нацыянальнай палітыцы. Штэмпелі былі двухмоўнымі і назвы некаторых гарадоў Беларусі адрозніваліся ад іх сённяшняга гучаньня.

Назва сталіцы БССР – Менск – была зацьверджана Канстытуцыяй 1927 г., гэта ж юрыдычная назва была замацавана і ў Канстытуцыі 1938 года. Але выкарыстоўвалася гэта назва трошкі раней (я маю на ўвазе савецкі перыяд), у тым ліку і на паштовых штэмпелях. Мне не ўдалося выявіць якіх-небудзь дакументаў: загадаў, інструкцый, распараджэньняў – аб уводзе ў дзеянне двухмоўных беларуска-расейскіх паштовых штэмпеляў на тэрыторыі БССР. Першы вядомы мне паштовы штэмпель (рыс. 1) з назвай „Менск" пачаў выкарыстоўвацца ў 1925 годзе ў чыгуначным аддзяленьні Заходняга вакзала Менска. Больш раньнія штэмпелі сённяшняга Мінска з „Менскам" мне не вядомы. Магчыма, у каго-небудзь у калекцыі такія штэмпелі ёсьць, прашу пра гэта паведаміць мне. Скрозь выкарыстоўваньне паштовымі аддзяленьнямі Менска – з назвай „Менск" прыходзіцца на 1925–1926 гг. Яны мелі двухмоўнае найменьне сталіцы нашай рэспублікі ў розным напісаньні. На рысунках 2а-д паказаны розныя ўзоры такіх штэмпеляў – „Мінск Белор. – Менск", „Минск–Менск", „Менск БССР – Минск", „Минск БССР – Менск".

У 1938 годзе былі ўведзены новыя штэмпелі, абавязковыя для ўсяго СССР, у малюнак якіх была ўведзена абрэвіятура „СССР" і выява пяцікутнай зоркі. І хоць 2-я сэсія Вярхоўнага Савета БССР у 1939 г. прыняла рашэньне аб перайменаваньні і Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прызнаў неабходным зьмяніць існуючую назву сталіцы БССР „Менск" на „Мінск", паштовыя аддзяленьні сталіцы ўжывалі штэмпелі з „Менскам" аж да чэрвеня 1941 г. (рыс. 3а, б). Калі штэмпель ужывалі да другой сэсіі ВС БССР, дык штэмпель 3 б (механічны) скарыстоўваўся ў лютым 1941 г. У той час у міжнародным аддзеле менскага паштамта ўжываўся стары штэмпель узору 20-х гадоў (рыс. 2д – 1). На малюнку 2д-2 паказаны ліст ваеннапалоннага, накіраванага з Нямеччыны ў Тамашоўку каля Бярэсьця ў чэрвені 1941 г. На лісьце адбітак штэмпеля 20-х гадоў міжнароднага аддзела паштамта.

У маёй калекцыі ёсць паштовая картка, адпраўленая 17 лістапада 1945 г. з палявой пошты ў Менск. На картцы выразна бачан штэмпель места атрыманьня „Мінск – Менск 26.11.45" (рыс. 4). А гэта значыць, што ў першыя пасьляваенныя гады ўжываліся штэмпелі, што захаваліся з даваенных часоў з беларускай назвай сталіцы рэспублікі – „Менск". Калі гэтыя штэмпелі былі зьняты і колькі іх было – мне не вядома.

Трэба яшчэ адзначыць, што на карэспандэнцыях 1939–1941 гг. разам з расейскімі сустракаюцца штэмпелі для заказных лістоў на беларускай мове (рыс. 7а, б) з назвай „Менск". Цікавасьць для калекцыянера-філатэліста ўяўляюць фірмовыя канвэрты розных дзяржаўных установ тых часоў. На малюнку 5 паказаны канвэрт Камісарыята рабоча-сялянскай інспекцыі. Гэта 1926 год. На канвэрце назва сталіцы рэспублікі – „Менск". Малюнак 6 – канвэрт камісарыята юстыцыі БССР, таксама 1926 год. На канвэрце назва камісарыята на 4-х мовах: беларускай, расейскай, яўрэйскай, польскай. Адрас камісарыята ў беларускім тэксьце – Менск.

Уяўляюць цікавасць для філатэлістаў і гісторыкаў паштовыя штэмпелі 20–30-х гадоў і іншых беларускіх паштовых аддзяленьняў. У наш час ня ўсе ведаюць, а шмат хто нават не дагадваецца, што ў тыя далёкія перадваенныя гады назвы многіх беларускіх гарадоў гучалі зусім па-іншаму.

Сёньня ня многія ведаюць, што ў беларускім гучаньні горад Орша зваўся Воршай. Пра гэта сьведчаць паштовыя штэмпелі 1926 і 1930 гг. – „Орша Бел. – Ворша" і „Орша – Ворша" (рыс. 8а, б). Аршанская пошта карысталася таксама дапаможным штэмпелем для заказных лістоў на беларускай мове (рыс. 9).

На паштовых і дапаможных для заказных лістоў штэмпелях Слуцка 1929 г. указана тэрытарыяльная прыналежнасьць горада – „Слуцк Бобр." і „Бобруйск. окр.", г. зн. Бабруйская акруга. Па тагачаснаму тэрытарыяльна-адміністратыўнаму падзелу на Беларусі налічвалася 8 акругоў (у 1925 – 10, у 1926 – 12) (рыс. 10а). Аднак штэмпелі Слуцка ўяўляюць цікавасьць яшчэ і таму, што беларуская назва гучыць „Слуцак" (штэмпелі Полацка таго ж часу маюць беларускае напісаньне „Полацк").

Яшчэ некалькі зьвестак пра штэмпелі таго часу і напісаньні на іх назваў нашых гарадоў, што розьняцца ад сёньняшніх. Малюнак 11а ўяўляе двухмоўны штэмпель Магілёва 1929 г. Беларускае напісаньне „Магілёў" рознае. Відаць, гэта быў перыяд, калі яшчэ не было дакладна вызначана, як пісаць па-беларуску „Могілёў" ці „Магілёў". І гэта нявызначанасць адбілася на паштовых штэмпелях (рыс. 11а, б).

Штэмпелі Талачына ўжываліся 2-х узораў. У 1926 годзе з надпісам „Толочин Бел. – Талачын" і ў 1929 г. – „Толочин Орш. окр. – Талачын" (рыс. 12а, б).

Сёньняшнее напісаньне „Рагачоў" на сучасных паштовых штэмпелях адрозьніваецца ад напісаньня ў 1926 г. – „Рагачэў" (рыс. 13).

Можна яшчэ прывесьці два прыклады цікавых штэмпеляў тых часоў. Гэта штэмпель Узлян 1926 года. На гэтым штэмпелі (рыс. 14) беларуская назва гучыць – Вузляны. І штэмпель таго ж 1926 г. цяперашняга Беразіна. Як бачым па паштовым штэмпелі (рыс. 15), тады гэты горад насіў назву „Березина – Бярэзіна".

Мне, на жаль, не вядомы якія-небудзь пастановы ці загады аб уводзе ці выключэньні вышэй апісаных штэмпеляў, таму я не магу назваць дакладных дат, калі яны ўжываліся.

Л. КОЛАСАЎ.
Менск.




1 2а 2б 2в 3а 3б 5 2д (1) 2д (2) 9 8а-б 10а 4 6 7а 7б 10б

АСТАТНІЯ ВЫЯВЫ – на 8-й стар.

Відас Жыгас

# Юозас Зікарас і нумізматыка

Каб паглыбіць інфармацыю пра творчую дзейнасьць скульптара Юозаса Зікараса (1884–1944) у Панявежы і Коўне, мне хацелася б распавесьці пра яго як пра стваральніка летувіскіх грошай. Варта прыгадаць, што скульптар Ю. Зікарас падрыхтаваў мадэлі манэтаў усіх выпускаў у перадваеннай Летувіскай дзяржаве. А выпушчана было чатырнаццаць манэтаў.

У 1924 г., пасьля таго, як летувіскі ўрад прыняў Закон аб манэтах, Міністэрства фінансаў, гандлю і прамысловасьці абвесьціла конкурс на стварэньне манэтаў. Намерыліся зьвярнуцца да ўдзельніка конкурсу Зікараса з прапановай падрыхтаваць мадэлі мэталёвых грошай. Закон аб манэтах 1924 года прадугледжваў замену дзейных тады папяровых цэнтаў і літаў дробнага наміналу на мэталёвыя манэты. Намерваліся выраблягь манэты вартасьцяй 1, 2, 5, 10, 20, 50 цэнтаў са сплаву алюмінію ды бронзы, а манэты 1, 2, 5 літаў павінны былі зьмяшчаць 50% серабра. Манэты ж вартасьцяй 50 літаў мусілі ўтрымліваць 90% золата. 2-гі параграф Закона аб манэтах абвяшчаў: „Кожны грамадзянін мае права падаць у Дзяржаўны скарб золата для выбіваньня манэтаў; за выбіваньне залатых манэтаў бярэцца вызначаная Міністэрствам фінансаў такса для таго, каб кампенсаваць выдаткі на выбіванне тых манэтаў”. Аднак урад так і ня выпусьціў манэту вартасьцяй 50 літаў. Напэўна, гэта было выклікана нялёгкім эканамічным становішчам у рэспубліцы. У ковенскім мастацкім музэі М. К. Чурлёніса захоўваюцца пластэлінавыя мадэлі абодвух бакоў залатой манэты, зробленыя Ю. Зікарасам.

У 1924 г. Ю. Зікарас, які ў той час жыў і працаваў у Панявежы, зрабіў гіпсавыя мадэлі манэтаў выпуску 1925 года. Відаць, невыпадкова на рэверсе аднацэнтавых манэтаў 1925 года ёсьць выява вертыкальнае сьцябліны зь дзевяцьцю бутонамі лёну. Гэткі самы малюнак паўтораны й на пяціцэнтавай манэце 1925 года. Сярод нумізматаў ходзіць легенда, дзякуючы якой згаданы цэнт (наклад 5 млн. экз.) уважаюць за рэдкую манэту. Гавораць, што міласьціну жабракам найчасцей давалі найдрабнейшымі, аднацэнтавымі манэтамі. Спадзеючыся надалей атрымліваць большую міласьціну, жабракі нібыта кідалі гэтыя манэты з моста ў рэчку. Наступная манэта была ўжо вартасьцяй 5 цэнтаў . . .

Можна дадаць, што і на мадэлі двухцэнтавай манэты, падрыхтаванай Зікарасам у 1924 годзе, таксама ёсьць выява лёну, дакладней сьцябліны лёну з кветкамі й бутонамі. Кампазіцыя асіметрычная, ня гэткая афіцыёзная, як на аднацэнтавіку. Аднак мадэль гэтай манэты не была зацьверджаная, бо Закон аб манэтах не прадугледжваў яе выпуску.

На выкарыстаньне выявы лёну аўтара натхніў горад Панявеж. На гарадзкім гэрбе гэтая выява зьявілася на пачатку XX ст. Яна сымбалізуе край як буйны цэнтр ільнаводзтва. І на цяперашнім (зацьверджаным у 1669 г.) гарадзкім гэрбе мы можам бачыць два скрыжаваныя сярэбраныя снапы лёну на чырвоным фоне. Але гісторыя гарадзкога гэрба – гэта ўжо іншая тэма.

У 1925 г. на рэверсах манэтаў вартасьцяй 10, 20, 50 цэнтаў аўтар паўтарае адзін малюнак – букецік аўса і ячменю. Гэтыя сельскагаспадарчыя культуры характэрныя ня толькі для Аўкштоты. Але Зікарас іх паказвае не архаічна, як гэта рабілі грэкі й рымляне на сваіх манэтах, а больш статычна і дэкаратыўна.

Сярэбраныя літы выпуску 1925 г. таксама вылучаюцца спакойнаю, стрыманаю кампазіцыяй. На іх зьмешчаны выявы расьлін. На манэце 1 літ ушанаваны дуб – сымболь магутнасьці. На рэверсе манэты 2 літы – рута, 5 літаў – лілея, таксама характэрныя для летувіскіх кветнікаў краскі. Гэтыя літы ўтрымліваюць 50% серабра. Цікава, што гэтыя манэты выбіў Ангельскі манэтны двор, які першы ў Эўропе пачаў выпуск сярэбраных манэтаў, уласьцівасьцю якіх было тое, што яны не чарнелі.

Пазьней Ю. Зікарас, жывучы і працуючы ў Коўне, зрабіў новыя мадэлі для манэтаў выпуску 1936 і 1938 года. Гэта бронзавыя манэты 1, 2, 5 цэнтаў 1936 года. На рэверсе манэты вартасьцяй 1 цэнт 1936 года – выява пшанічнага коласа, 2 цэнты – авёс, а на новых 5 цэнтах – зноў лён, дакладней, дзьве сіметрычныя сьцябліны лёну, на кожнай па тры кветкі.

Манэта 5 літаў 1936 года (75% серабра) – першая партрэтавая манэта, з выявай патрыярха рэспублікі, доктара, палітыка, заснавальніка таварыства „Аўшра” Ё. Басанавічуса (1851–1927). Яшчэ ў 1923 годзе Зікарас стварыў рэльеф Басанавічуса ў Панявежы, а рыхтуючы мадэль манэты, зрабіў некалькі варыянтаў кампаноўкі. Гэта сьведчыць пра высокую адказнасьць скульптара. На манэце паказаны павернуты ўлева профіль Ё. Басанавічуса. Пад партрэтам-бюстам выразна відаць ініцыялы аўтара манэты – І і Z.

На манэце 10 літаў 1936 года (таксама 75% серабра), зьмешчана выява Вітаўта (1350–1430), Вялікага Князя Літоўскага (1392–1430). На манэце паказаны профіль князя з каронай, захінутага ў гарнастаевае футра. Партрэт пададзены як сымболь. Скульптар быў вымушаны імправізаваць, бо гістарычныя аўтэнтычныя іканаграфіі з выявай Вітаўта не захаваліся. Гэтая манэта – першы летувіскі „імпэрыял”, з выпускам якога спазьніліся ажно на шэсьць гадоў. Прыгадаем, што 1930 год быў абвешчаны ў Летуве годам Вітаўта Вялікага. Праўда, у той год скульптар П. Рымша выпусьціў колькі сувенірных мэдалёў з партрэтам Вітаўта, але на іх князь быў паказаны ня профілем, а з паваротам на тры чвэрці. Аналягічна быў выкананы партрэт Вітаўта і на банкноце 20 літаў 1930 г. (мастак А. Гальдыкас). Але на ім Вітаўт паказаны больш празаічна, з маладым нерашучым тварам. Вэрсія Ю. Зікараса, на маю думку, лепшая.



*Выявы 1–8 (зьверху ўніз, зьлева направа):*
*1. 2 цэнта. 1924 г. Рэверс. 18 мм.*
*2. 5 цэнтаў. 1925 г. Рэверс. 19 мм.*
*3. 20 цэнтаў. 1925 г. Рэверс. 22 мм.*
*4. 1 літ. 1925 г. Рэверс. 19 мм.*
*5, 6. 5 літаў. 1936 г. Аверс і рэверс. 22 мм.*
*7. 10 літаў. 1936 г. Рэверс. 32 мм.*
*8. Аверс мэдаля Незалежнасьці Летувы са скульптурай Свабоды. Сплаў алюмінію і бронзы. 1928 г. 36 мм.*

Апошняя створаная Ю. Зікарасам манэта – юбілейная: 20 літаў 1938 года (75% серабра), выпушчаная ў гонар дваццатай гадавіны незалежнасьці Летувы. На рэверсе манэты выбіты павернуты ўлева профіль А. Сметоны (1874–1944), прэзідэнта Летувіскай дзяржавы (1919–1921 і 1926–1940). Прэзідэнт паказаны на рымскі манер, з аголенаю шыяй. Гэта самая рэдкая (наклад 180 тыс. экз.), адзіная ў перадваеннай Летуве юбілейная манэта. Сярэбраная юбілейная манэта з профілем прэзідэнта А. Сметоны, не была выпушчаная. Вядомыя толькі спробныя ўзоры 1936 і 1938 гадоў.

Цікава, што з усіх Прыбалтыйскіх дзяржаў адно Летува выпускала манэты з гістарычнымі партрэтамі. Гэта старая традыцыя Вялікага Княства Літоўскага, якая дэманструе лучнасьць незалежнай летувіскай дзяржаўнасьці зь яе гістарычным мінулым.

У 1936 годзе ў друку пісалі: „Усе нашы мэталёвыя грошы дагэтуль выбівалі за мяжою. За іх выраб з краю вывозілі нямала грошай. Далей гэтак ня будзе. Дзякуючы клопату Міністэрства фінансаў, патрэбныя манэты цяпер выбівацьмем на месцы”. Даваенны аўтар памыляецца. Толькі выбіванне аднацэнтавых манэтаў было стратнае. Кошт двухцэнтавых манэтаў ужо кампенсаваў выдаткі на іхны выраб. Манэты ж большых наміналаў прыносілі дзяржаве прыбытак. Варта зазначыць, што калібраваныя загатоўкі для выбіваньня манэтаў апошніх выпускаў Ковенскі манэтны двор закупіў у Бэльгіі. І ўсё адно, у кожным разе выраб манэтаў быў для дзяржавы прыбытковы.

Большасьць з аўтараў, што пішуць пра створаныя Ю. Зікарасам мадэлі, падкрэсьлівае, што летувіскія манэты былі выкананыя на высокім мастацкім і тэхнічным узроўні. Гэта заслужаная ацэнка.

Апрача манэтаў, што ўбачылі сьвет, можна ўзгадаць і падрыхтаваныя Зікарасам мадэлі з выявамі ўрбаністычных матываў летувіскіх гарадоў. У 1937 годзе скульптар стварыў мадэль дзесяціцэнтавіка з клайпедзкім маяком, дваццаціцэнтавіка – з ковенскай ратушай і манэты 50 цэнтаў – зь віленскай катэдрай і вежай Гедыміна. Аднак урад не зацьвердзіў мадэлі гэтых манэтаў з дыпляматычных меркаваньняў. Гісторыкі нагадваюць, што Вільня і Віленскі край з 1922 па 1939 год былі пад уладай Польшчы, а Клайпеда і Клайпедзкі край у 1935 г. апынуліся ў руках Нямеччыны. Дзеля гэтых палітычных перыпетыяў створаная Зікарасам нумізматычная сэрыя гарадоў Летувы ня ўбачыла сьвет.

Калі зірнуць на аверсы манэтаў Ю. Зікараса з выявай гэрба Віціс[x], можна заўважыць пэўныя адрозьненьні. На манэтах 1925 года над гэрбам ёсьць словы „Lietuvos respublika”, а ўнізе – калюмны й дата. На манэтах 1936 года надпіс быў скарочаны. Засталося толькі слова „Lietuva” і дата. У параўнаньні з вэрсіямі дзяржаўнага гэрбу мастакоў Т. Даўгірдаса, А. Жмуйдзінавічуса, М. Дабужынскіса Пагоня, якую стварыў Ю. Зікарас, вылучаецца рысамі дарэнесансавага гэрбу. Мы ня знойдзем у ім мудрагелістых аздобаў. Гэральдычная фігура рыцара негрувасткая, дэмакратычная. Тулава каня разьмешчана пазема. Конь і вершнік гоняцца за праціўнікам, а не пераскокваюць цераз перашкоду. Заднія ногі каня прытулены адна да адной, пярэднія таксама. Хвост выгнуты дугою. Вершнік сядзіць не ў сядле, а на кароткіх гуньках, узьняўшы амаль пазема над галавою просты меч. Гэаметрыя шчыта – падоўжаны трохкутнік з правільным шасьціканцовым крыжам. Шалом вянчаюць ня пёры, як на польскім арле з гэрба аб’яднанай Рэчы Паспалітай, а тры – жоўтая, зялёная, чырвоная – стужкі, якія сымбалічна паўтараюць колеры сьцяга. Крыху сагнутыя ногі коньніка прышпорваюць каня. Похва разьмешчаная раўналежна шчыту.

Апрача мадэляў манэтаў, скульптар, жывучы ў Панявежы, займаўся й стварэньнем медалёў. Вельмі цікавы мэдаль Незалежнасьці Летувы, зроблены ў 1928 годзе з нагоды дзесяцігодзьдзя незалежнасьці. Параграф 253 Закона аб ордэнах, мэдалях і іншых знаках адрозьненьня Летувіскае дзяржавы абвяшчаў: „Мэдаль Незалежнасьці Летувы – бронзавы. На пярэдняй палове мэдаля – выява статуі Свабоды, на адваротнай – надпіс: „Не драмалі вякамі й волю заваявалі праз ахвяры й самаадданасьць. 1918–1928”.

„Mokslas ir gyvenimas” *(„Навука і жыцьцё), №8, 1989 г.*

*Друкуецца зь нязначнымі скаротамі. Пераклаў з летувіскай Віктар ЛУК’ЯНАЎ.*

---

[x] Гэтак летувісы называюць Пагоню. Варта зазначыць, што да сярэдзіны XIX ст. гэрб Вялікага Княства Літоўскага ня меў у летувіскай мове свайго назову. Упершыню назваў яго Віцісам летувіскі гісторык С. Даўкантас у 1845 годзе (заўвага перакладчыка).

# БАНК ПРАПАНОЎ

(Працяг. Пачатак на 7-й старонцы).

200 год паўстаньню Касьцюшкі, утварэньню Найвышэйшай літоўскай рады, біцьве каля Любані;

200 год з дня сьмерці Ёгана Георга Адама Форстэра (1754–1794), праф. Віленскага універсытэту;

175 год утварэньню Таварыства прыяцеляў навук у Сьвіслацкай гімназіі;

110 год часопісу „Гомон";

110 год чыгунцы Вільня-Пінск;

100 год Вакзальнаму мэталічнаму заводу ў Менску;

100 год Альбярцінскай шоўкакруцільнай фабрыцы;

60 год менскаму гарадзкому стадыёну;

60 год Віцебскаму мэдінстытуту.

1995

875 год з дня нараджэньня Ефрасіньні Полацкай (1120–1173);

725 год дзяржаўнаму гербу Пагоня;

650 год княжаньню Альгерда;

585 год Грунвальдзкай перамозе;

400 год з дня нараджэньня М. К. Сарбеўскага, паэта, філёзафа, пэдагога;

425 год Віленскай езуіцкай калегіі;

375 год Магдэбурскаму праву для Воршы;

350 год Магдэбурскаму праву для Мальчы (цяпер Малеч Бяроз. р-на);

225 год пачатку дзейнасьці тэатру М. К. Агінскага (Слонім);

150 год пачатку дзейнасьці балетнай трупы М. Піёна (Віцебск);

110 год Мазырскай запалкавай фабрыцы;

100 год электрастанцыі ў Менску;

75 год Слуцкаму паўстаньню. Ген. С. Булак-Балаховіч;

70 год Беларускаму радыё.

*В. Вячорка, В. Карэмскі, У. Цярохін, І. Матавілаў, А. Сярожкін.*

(Заканчэнне ў №3)

ВЫЯВЫ ДА АРТЫКУЛА на стар. 4.




126




11а




13




116




14




12а




15







Віцебск. Музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова

# ВІЦЕБСК
## вачыма філатэліста

Знакі паштовае аплаты зазвычай адлюстроўваюць шмат якія падзеі, гістарычныя мясьціны, ушаноўваюць памяць выдатных людзей і г. д. Не застаўся ў гэтым сэнсе па-за ўвагаю і г. Віцебск. І хоць ня вельмі багата матэрыялаў пра гэты горад захоўваецца ў калекцыях філатэлістаў, але колькі савецкіх ды замежных марак, а таксама каля двух дзесяткаў маркіраваных канвертаў (далей – МК) усё ж ёсьць. І дзякуючы гэтаму можна уявіць сабе своеасаблівы „партрэт" старажытнага горада, атрымаць зьвесткі пра ягоную геаграфію, гісторыю, культуру, ягоных жыхароў ды абаронцаў.

З нагоды сьвяткаваньня ў 1974 г. 1000-годзьдзя г. Віцебска Міністэрства сувязі СССР выдала марку ды мастацкі МК з малюнкам вул. Леніна і надпісам на беларускай ды рускай мовах „1000 год Віцебску". На марцы – дом Агінскага (з „Чарцяжа" Віцебску 1664 г.), першага мураванага будынку – у левай частцы, а ў правай – вул. Кірава з будынкам чыгуначнага вакзала. Да гэтага варта дадаць, што ўся карэспандэнцыя, якая ішла з г. Віцебска 30–31.08.74 г., гасілася сьпецыяльным штэмпелем.






Дарэчы, вул. Кірава і будынак чыгуначнага вакзала сталі сюжэтамі для малюнкаў на двух канвертах, выдадзеных у 1964 і 1971 гг.

А самы першы канверт, прысвечаны Віцебску, зьявіўся ў 1962 г. На ім была зьмешчаная выява ветэрынарнага інстытута.

На МК, выдадзеным у наступным, 1963 г. (№2666) жыхары горада пазналі „свой" мост цераз р. Заходняя Дзьвіна. Стары будынак педінстытута мы бачым на МК, які зьявіўся ў 1965 г.

Таксама двойчы – у 1971 і 1986 гг. – на МК знайшоў сваё мастацкае ўвасабленне будынак Беларускага Дзяржаўнага тэатра імя Я. Коласа.

Паколькі горад працягваў расьці, будавацца, то й на канвертах, прысвечаных Віцебску, зьяўляюцца новыя рэаліі: у 1967 г. – Цэнтральны універмаг, а ў 1983 г. – гасьцініца „Віцебск".

Пра нялёгкі шлях горада скрозь пекла апошняй вайны нагадваюць нам наступныя матэрыялы: марка, выдадзеная ў 1969 г. у гонар 25-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, два МК (1973 г. і 1980 г.), на якіх намаляваны музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова, а таксама й марка з партрэтам легендарнага бацькі Міная.

У 1977 г. і 1986 г. зьявіліся канверты, на якіх быў зьмешчаны малюнак манументу на Плошчы Перамогі, пабудаваны ў гонар герояў-вызваліцеляў.

У 1989 г. выйшаў з друку канверт, на якім мы бачым выявы гербаў беларускіх гарадоў, сярод якіх – старажытны герб Віцебска.

Ёсць імя Віцебска і на французкай паштовай мініяцюры, і на канверце „Першага дня", дзе знайшла адлюстраваньне гісторыя баявога авіяпалка „Нармандыя-Неман".

У 1087 г. паштовыя ведамствы некаторых краінаў выпускам сваіх марак адзначылі 100-годзьдзе знакамітага мастака Марка Шагала, які ў 1918-20 гг. жыў і працаваў у Віцебску. На марках гэтых выпускаў ёсьць і рэпрадукцыі некаторых карцін майстра на віцебскія сюжэты: „Над Витебском", „Ангел над Витебском", „Художник над Витебском" ды інш.

Вядома, калі „рассунуць межы" горада ды павесьці гаворку пра Віцебскую вобласьць ці Віцебшчыну наогул, то пералік і апісаньне філатэлістычнага матэрыялу можна яшчэ працягваць. Але гэта ўжо тэмы для іншых артыкулаў.

Генрых СУХОРСКІ, Калінінградская вобл.

## АБ'ЯВЫ

x x x

Набуду першыя канверты, прысьвечаныя Віцебску:
1. Ветэрынарны інстытут
2. Мост праз Заход. Дзьвіну.
3. Вуліца Кірава.
4. Педінстытут.
5. Дом адпачынку „Сасноўка".
6. Універмаг.

Маю абменны фонд.

328030, Калининградская обл., г. Гусев, ул. Первомайская, д. 3, кв. 1, Сухорский Г. С.

МАЛАДЗЁЖНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ „ВЫБРАНЕЦКІЯ ШАХТЫ"

прапануе супрацоўніцтва ўсім, хто цікавіцца беларускім рыцарствам, каго вабяць рыцарскае права, патрабаваньні рыцарскага кодэксу, рытуал пасьвячэньня, практычнае засваеньне нашае рыцарскае спадчыны, выраб вопраткі, досьпехаў, зброі.

Таксама выбранцы зьвяртаюцца да спэцыялістаў – гісторыкаў, мастакоў, шаўцоў, кавалёў і іншых – па дапамогу ў якасным вывучаньні й адраджэньні Вялікалітоўскага (Беларускага) рыцарства.

220131, Менск-131, п/с 19. "ВЫБРАНЕЦКІЯ ШЫХТЫ".

x x x

*Рэдакцыя газеты „Беларускі калекцыянер" паведамляе, што на 1992 год падпісацца на нашу газету можна, пералічыўшы на адрас: 211030, Беларусь, м. Ворша, вул. Флёрава, д. 7, кв. 16, Сярожкіну Алесю Міхайлавічу – у межах Беларусі – 4 руб., у межах былога СССР – 5 рублёў.*

*Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй і культурай Беларусі, пра калекцыі паштовых марак, манэтаў, кнігаў і іншых рэчаў, пра Вашыя цікавыя знаходкі.*

Газету рыхтавалі: Алесь СЯРОЖКІН, Уладзімір ЦЯРОХІН, Мікола ДЗЕМІДОВІЧ.

АДРАСЫ ДЛЯ ЛІСТАВАНЬНЯ:
– 211030, места Ворша, вул. Флёрава, 7, кв. 16. Сярожкіну Алесю Міхайлавічу.
– 2200131, Менск-131, паштовая скрынка №229. Цярохіну Уладзіміру Станіслававічу (хатні тэл. 61-21-78).

АРШАНСКАЯ ДРУКАРНЯ

Наклад 990 асобнікаў.

Заказ №209.